

**«ПАХАВАНЫ ЯК ГЕРОЙ»** Стар. 7.

**«БЕЛАРУСКІЯ ЯЎРЭІ Ў ЗША»** Стар. 6—7.

**КСЁНДЗ Уладыслаў ЗАВАЛЬНЮК — З БЕЛАРУСКІМ СЛОВАМ ДА БОГА** Стар. 4—5.

**ВАНДРОЎКА З ІГАРАМ ГАТАЛЬСКІМ** Стар. 4.



**ШАГАЛАЎСКІЯ ДНІ** Стар. 2.

**Уладзімір ЛІПСКІ «МАМА»** Стар. 8.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

29 ліпеня 1999 года
Цана 20 000 рублёў

№ 29—30

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ



## Ірына КУЗНЯЦОВА:

## «ПАЧАТАК ПАЧАТКАЎ — ХРАМ ВА ЎЛАСНАЙ ДУШЫ»

ІРЫНА КУЗНЯЦОВА — ЧЛЕН САЮЗА МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ, РЭФЕРЭНТ ПА РАБОЦЕ З ДЗЕЦЬМІ І МОЛАДДЗЮ. АЎТАР ТРОХ КНІЖАК ВЕРШАЎ І КАЗАК. АБ'ЁМНА-ПРАСТОРАВЫЯ КАМПАЗІЦЫІ СА ШКЛА І МЕТАЛУ ІРЫНЫ КУЗНЯЦОВАЙ УПРЫГОЖВАЮЦЬ ІНТЭР'ЕРЫ МУЗЕЯЎ, ТЭАТРАЎ МІНСКА. ЗА ЎДЗЕЛ ВА УСЕСАЮЗНАЙ ВЫСТАВЕ-КОНКУРСЕ НА ПРАЕКТ ХРАМА-ПОМНІКА ДА 1000-ГОДДЗЯ ХРЫСЦІЯНСТВА НА РУСІ ЎЗНАГАРОДЖАНА ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ СВЯШЧЭННАГА СІНОДА. З 1995 ГОДА ЗАЙМАЕЦЦА ПРАЕКТАМ "МІЖНАРОДНЫ ДЗІЦЯЧЫ ПЛЕНЭР". СЁННЯ ЯНА НАША ГОСЦЯ.

ДВА гады назад маскоўскія журналісты зрабілі навуковую паездку да невядомых плямёнаў Новай Гвінеі. Там аказалася адна каменная сякера на некалькі плямёнаў. І гэта ў 1997 годзе! Зразумела ж, што час — адзінка ўмоўная. Ён у кожнага свой — наколькі развіта наша свядомасць, наколькі мы гатовы да новага часу — вось у такім часе мы і жывём. У якім часе жыве сёння Японія? Там дзеці адрозніваюць у адным колеры да 200 адценняў. Там, калі нехта зможа прыдумаць што-небудзь новае для дзяцей, адкідваюцца самыя важныя справы і аплачваюцца менавіта гэтыя праграмы. Японцы ўцягнулі ў конкурсы і выставы ўвесь свет. Выдаюць кнігі, паштоўкі, маркі, буклеты, плакаты з малюнкамі дзяцей, там мноства праграм і мноства людзей, якія займаюцца гэтай праблемай.

Ці наблізіць пачатак XXI стагоддзя Беларусь да іх XXI стагоддзя? Пяць гадоў назад я стала аўтарам праекта "Дзіцячы міжнародны пленэр". Канцэпцыя ўсіх пленэраў у трыадзінстве — пераемнасць пакаленняў, дзеці як міратворцы і культура Беларусі — частка культуры сусветнай. Прысвячаюцца пленэры творцам, якія ўнеслі вялікі ўклад у сусветную культуру. Першы быў прысвечаны Марку Шагалу, другі — Антуану Экзюперы, трэці — Алене і Мікалаю Рэрыхам, чацвёрты — Мікалоюсу Чурлёнісу, пяты, сёлетні, прысвечаны Казіміру Малевічу. Якая сувязь паміж імі? Усе яны былі прысвечаны неардынарным асобам, якім даводзілася змагацца за сваё бачанне свету, сваю філасофію. Ці прынясе XXI стагоддзе разуменне талента?! Хацелася б. Іаган Себасцьян Бах быў прызнаны толькі праз 200 гадоў. Цяпер у гэта цяжка паверыць.

Кожны крок, які я раблю ў гэтым напрамку, унізаны калючкамі. Яны раняць не ногі — сэрца. Сказаць, што ніхто не дапамагае праводзіць праграмы для дзяцей і моладзі, я не магу. Але хіба можна зламаць мысленне бюракрата толькі тым, што час назавецца XXI стагоддзем? Вось ужо 50 гадоў (гэта ж паўстагоддзя!), як узнікла ідэя стварыць музей дзіцячага выяўленчага мастацтва. Ніхто не супраць — нібыта ўсе, ад каго гэта залежыць, таксама падтрымліваюць ідэю, а музея да гэтага часу няма! Дзеці вырастаюць,

(Заканчэнне на 2-й стар.).



Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.

**Вядомаму і любімаму ўсімі мінчанамі фантану "Хлопчык з лебедзем", што ў цэнтральным скверы, споўнілася 125 гадоў.**

ВЫСТАВА

У выставачнай зале Даўгаўпілскага музея адкрылася выстава габеленаў і баціка беларускіх майстроў з Віцебска Таццяны і Юрыя Рудэнкаў.

З гэтай падзеяй мастакоў павіншавалі генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе Васіль Марковіч, супрацоўнік аддзела культуры Даўгаўпілскай гарадской думы Мервалдзіс Бродаўс, сябры "Уздыму" Таццяна Бучэль і Станіслаў Валодзька.

Крэда выставы Рудэнкі вызначаюць так: "Ласкава глянуць у вочы прыродзе". Выстава Таццяны і Юрыя Рудэнкаў праходзілі ў розных краінах свету. І вось — Латвія, Даўгаўпілс, горад-пабрацім Віцебска. Вялася гаворка аб тым, што гэтая іх выстава, магчыма, будзе адкрыта і ў Рызе.

ЭНЕРГЕТЫКА



Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

**Першую геліяўстаноўку, здольную награваць ваду да 70 градусаў, выкарыстоўваючы пры гэтым энергію сонца, устанавілі ў Буда-Кашалёўскім раёне работнікі райаграпрамэнерга. Па разліках спецыялістаў, яна павінна працаваць з красавіка па верасень, даючы пры гэтым значную эканомію электрычнай энергіі.**

**НА ЗДЫМКУ: мантаж першай у раёне геліяўстаноўкі на даху малочнатаварнай фермы саўгаса "Чырвонакастрычніцкі".**

НАПЯРЭДАДНІ

Мінская мэблевая фабрыка рыхтуе новыя ўзоры мэблі і пакажа іх на выставе "Мэбля-2000", якая пройдзе ў Мінску 26—30 кастрычніка гэтага года. Цяпер прадпрыемства выпускае наборы мяккай мэблі для камінных і гасціных пакояў, аднаспальныя і двухспальныя ложкі, дзіцячыя канапы, матрацы і іншую прадукцыю. Па даных спецыялістаў фабрыкі, штомесячны аб'ём вытворчасці складае на прадпрыемстве 180 мільярдаў беларускіх рублёў, што на 15 працэнтаў перавышае паказчыкі мінулага года. Абсталяванне фабрыкі выкарыстоўваецца поўнасцю.

Спецыялісты фабрыкі паведамілі, што ў планы прадпрыемства ўваходзіць пастаяннае пашырэнне асартыменту выпускаемай прадукцыі. Цяпер у вытворчасці знаходзіцца каля 30 набораў мэблі (супраць 10 у 1997 годзе). Абсталяванне прадпрыемства дазваляе лёгка перабудаваць вытворчасць пад новыя ўзоры прадукцыі. Камплектуючыя і дэталі, неабходныя для вытворчасці, фабрыка закупляе ў беларускіх прадпрыемстваў. Асноўныя рынкі збыту мэблі — Беларусь, Расія і Казахстан.

**Даведка:** Мінская мэблевая фабрыка была створана ў 1922 годзе. Сёння на прадпрыемстве працуе 720 чалавек. Пры фабрыцы адкрыты магазін.

ШАГАЛАЎСКІЯ ДНІ







**У Віцебску прайшлі IX Міжнародныя Шагалаўскія дні. У дзень нараджэння мастака 6 ліпеня ў музеі Марка Шагала адбылося адкрыццё выставы "Марк Шагал і яўрэйская культура", на якой упершыню былі прадстаўлены 96 работ — ілюстрацый да "Мёртвых душ" М. Гогаля. Гэта падарунак Віцебску ўнучак вялікага мастака, а таксама шэраг літаграфій, падораных гораду куратарам музея Марка Шагала ў Еўропе Гюнтэрам Камацкі (Швейцарыя), доктарам Генрыхам Мандэлем (Германія).**

**НА ЗДЫМКАХ: унучка мастака Мерэт Маер ГРАБЕР і куратар музея Марка Шагала ў Еўропе Гюнтэр КАМАЦКІ; адна з рэпрадукцый — афорт М. Шагала да твора "Мёртвыя душы" М. Гогаля; на выставе "Марк Шагал і яўрэйская культура".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

КОНСУЛЬСКІ ПУНКТ

Консульскі пункт на дзяржаўным прадпрыемстве "Нацыянальны аэрапорт Мінск" будзе ў бліжэйшы час поўнасцю ўкамплектаваны штатнымі работнікамі, паведамілі ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі. Спецыялісты МЗС адзначылі, што ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Беларусі ад 29 сакавіка гэтага года № 431 "Аб размяшчэнні і адкрыцці на дзяржаўным прадпрыемстве "Нацыянальны аэрапорт Мінск" консульскага пункта" колькасць яго работнікаў будзе павялічана.

У консульскім пункце афармляюцца візы ў асноўным для грамадзян тых дзяржаў, у якіх адсутнічаюць беларускія консульскія ўстановы. Падставай для выдачы дзелавых віз з'яўляецца прад'яўленне арыгінала запрашэння беларускай юрыдычнай асобы (незалежна ад формы ўласнасці). Запрашэнне афармляецца на фірменным бланку з указаннем рэквізітаў суб'екта гаспадарання, які запрашае, рэгістрацыйнага нумара. На бланку ставіцца пячаць юрыдычнай асобы і подпіс кіраўніка. У запрашэнні ўказваюцца пашпартныя даныя асобы, якую запрашаюць, канкрэтная, акрамя візіту, мэта паездкі, а таксама абавязацельствы асобы захоўваць правілы знаходжання на тэрыторыі Беларусі. Гасцявыя візы выдаюцца на падставе арыгінала запрашэння, афармленага ва ўстаноўленым парадку праз пашпартна-візавыя ўстановы. Консульскі пункт выдае турыстычныя візы на падставе заяўкі турыстычнай арганізацыі, што мае ліцэнзію на ажыццяўленне міжнароднай турыстычнай дзейнасці, і ваўчара ўстаноўленага ўзору. Транзітныя візы выдаюцца на падставе прадастаўлення візы краіны, у якую прад'яўнік едзе праз тэрыторыю Беларусі. Калі для візіту ў краіну следавання візы не патрабуецца, то транзітная віза выдаецца на падставе іншых дакументаў (напрыклад, білетаў) што пацвярджаюць следаванне прад'яўніка ў гэтую краіну.

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

# Ірына КУЗНЯЦОВА:

## «ПАЧАТАК ПАЧАТКАЎ — ХРАМ ВА ЎЛАСНАЙ ДУШЫ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

тоны малюнкаў выкідваюцца на сметнік, таму што іх няма дзеля чаго захоўваць. Так і застанецца невядомым, пра што нам хочуць сказаць нашы дзеці, як мяняюцца яны з году ў год, што бачаць вакол. Сяргей Каткоў, які выхаваў цэлую пляяду мастакоў, памёр, так і не ажыццявіўшы гэтую ідэю. А як цудоўна было б, калі б музей усё-такі рэалізаваўся матэрыяльна — як цэнтр культуры для моладзі. Там не трэба студый (толькі навуковая праца), павінна дзейнічаць пастаянная экспазіцыя і выставы работ дзяцей з усёй Беларусі, якія змяняліся б па тэмах. І асноўным фондам музея сталі б тыя работы, якія захоўвае цяпер дачка Сяргея Пятровіча — Святлана, сама ўжо вядомы мастак. Такі музей мог бы з гонарам насіць імя Каткова — самага вядомага мастака-педагога, першага, хто сур'ёзна паставіўся да творчых фантазій дзіцяці. Можна толькі пажадаць, каб гэтая ідэя ажыццявілася ў XXI стагоддзі.

І ўсё ж цяпер, калі я працую ў Беларускім саюзе мастакоў рэферэнтам па рабоце з дзецьмі і моладдзю, думаю, што мне крышку ўдаецца наблізіць час. Першае, паспяхова прайшла мінулагодняя асенняя маладзёжная выстава-конкурс "Час, прастора, асоба", дзе разам з традыцыйнымі відамі мастацтва былі прадстаўлены новыя: інсталяцыі, перфармансы, бодзі-арт. Выступілі паэты-авангардысты, авангардныя музычныя групы. Сёння ва ўсім свеце існуе тэндэнцыя збліжэння ўсіх відаў мастацтва і з'яўлення мастацтва, якое адлюстроўвае актуальныя праблемы жыцця ва ўсіх сферах. Гэта барацьба са СНІдам, з наркаманіяй, экалогія, правы чалавека, абарона дзяцей. Гэта прагрэсіўная плынь. Нядаўна Беларускі саюз мастакоў правёў міжнародны семінар сучаснага мастацтва, каб выявіць асноўныя тэндэнцыі яго развіцця, адкрыць новыя імёны, даць магчымасць мастакам з розных краін падзяліцца назапашаным вопытам, пазнаёміцца адзін з адным. Не ўсе краіны адгукнуліся на наша запрашэнне, але галоўнае — пачаць.

У нас таленавітая моладзь — у яе ўсё атрымаецца, вось толькі ці будзем мы далучаны да гэтага? Для многіх XXI стагоддзе асацыіруецца з няўпэўненасцю ў будучыні сваіх дзяцей і надзеяй проста выжыць. Я не выключэнне. Але ад гэтага творчых ідэй менш не становіцца. Іншае пытанне, што разумееш: рэалізаваць усё, што задумаў, не ўдасца.

Можа быць лягчэй жыць таму, хто не прымае ўсё блізка да сэрца, ідзе ўжо пратаптанай дарогай. Я так не магу. Для мяне словы мастак і наватар ідэнтычныя. Інакш творчасць проста пераходзіць у рамяство.

Мне б не хацелася ўсё пачынаць спачатку, пакінуць у мінулым пражытае, я шмат зрабіла ў творчасці. Была адной з першых у Беларусі, хто пачаў працаваць у літым шкле для архітэктуры, захапілася фармальным жывапісам. Удалося выдаць свае кніжкі вершаў і казак. Так, мне ёсць што пакінуць пасля сябе. І ўсё ж сваёй галоўнай, этапнай працай лічу ўдзел ва Усесаюзным конкурсе на храм-помнік да 1000-годдзя хрысціянства на Русі. Канцэпцыя была створана на падставе Біблії. Хаця да гэтага я, як і многія з нас, Біблію ўвогуле не чытала. Але шмат ездзіла па манастырах, размаўляла з веруючымі, свяшчэннікамі, вучонымі — і навучылася бачыць і разумець сімвалы Біблії. Няхай гэты Храм не пабудаваны, але мне ўдалося стварыць Храм у сваёй душы, і я зусім па-новаму пачала глядзець на свет, на людзей. Знаёмства з вучэннем Рэрыхаў дапоўніла мае веды, і я зразумела, якія мы ўсе невукі.

Рэвалюцыі зрабілі галоўнае — адняслі ў нас Бога, астатняе мы самі страцілі. І цяпер па кропельках знаходзім яго ў сваёй душы. Вось гэтае невуцтва я з радасцю пакідаю ў мінулым стагоддзі, а з сабой у XXI бяру Веру, Надзею, Любоў, без якіх немагчыма ніякая творчасць.




**"Марская лілея" — такую назву атрымаў кантэйнеравоз, пабудаваны для Галандыі на Рэчыцкім суднарамонтным-суднабудаўнічым заводзе.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

БЕЛАРУСЬ СЁННЯ: ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# СТЫМУЛ — КАНКУРЭНЦЫЯ

**Гутарка з дырэктарам Гродзенскага механічнага завода Генадзем ГАРБАЦЭВІЧАМ**

**— Генадзь Мікалаевіч! Паўтара года назад механічны завод быў у крызіснай сітуацыі. Праца ж у бягучым годзе паказвае, што прадпрыемства перавысіле паказчыкі аб'ёму вытворчасці нават у параўнанні з адносна спрыяльным для эканомікі 1990 годам. Раскажыце, калі ласка, як вам удалося стабілізаваць работу завода.**

— Гродзенскі механічны завод стварыўся 15 гадоў назад як рамонтная вытворчасць для хімічнай прамысловасці былога Савецкага Саюза. Яна была арыентавана на адзінкавыя, дробнасерыйныя заказы, якіх у той час было мноства. З развалам жа СССР его мэтавае фінансаванне спынілася, а адсутнасць заказаў поўнасцю паралізавала прадпрыемства. Да пачатку 1998 года завод практычна стаў. Кваліфікаваныя кадры пайшлі ў камерцыйныя структуры, іншыя арганізацыі. Страты склалі 1,5 мільярда рублёў. Патрабаваліся кардынальныя змены становішча. Давялося поўнасцю памяняць вядучых спецыялістаў, змяніць структуру завода, яго рэжым работы. Мы наладзілі дзейнасць маркетынгавай службы, вызначыліся з заказчыкамі на прадукцыю. Стварылі дадатковыя вытворчыя ўчасткі па вырабу сталярных вырабаў для насельніцтва. Для прыцягнення на завод спецыялістаў і іх замацавання павялічылі тарыфную стаўку першага разраду, павысілі зарплату вядучым спецыялістам, усім работнікам часткова аплацілі харчаванне ў сталовай.

Выніку доўга чакаць не давялося. Да мая 1998 года вытворчасць ажыла. Марудна, але пачалі расці тэмпы вытворчасці.

Ва ўмовах складанай эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы аб'ём таварнай прадукцыі на заводзе за першы квартал бягучага года павялічыўся ў супастаўных цэнах у пяць разоў да ўзроўню 1998 года. Падкрэслю: гэтага выніку кіраўніцтва завода, канструктары, спецыялісты, рабочыя дабіліся агульнымі намаганнямі. Вызначыўшы праграму выхаду з крызісу, асобую ўвагу звярнулі на асваенне новых відаў прадукцыі. Раней завод займаўся толькі рамонтам. Цяпер жа наменклатура прадукцыі расшырылася ў некалькі разоў. Удзельная вага новай прадукцыі ў аб'ёме выпуску складае 64 працэнты. Толькі на працягу апошняга года на заводзе асвоена серыйная вытворчасць ёмістасцяў для падземнага захоўвання светлых нафтапрадуктаў аб'ёмам ад 5 да 50 кубаметраў, ізатэрмічныя цыстэрны для перавозкі малака і іншых вадкіх харчовых прадуктаў, апараты з перамешваючым прыстасаваннем для лакафарбавай прамысловасці аб'ёмам ад 1 да 6,3 кубаметра, якія працуюць у выбухованебяспечным асяроддзі.

Заўважу, на гэтую прадукцыю цяпер маецца попыт. А маючы рынак збыту, можна нарошчваць аб'ёмы вытворчасці. Што актыўна і робім. Канструктары распрацавалі і рыхтуюць да асваення ізатэрмічныя прычэпы-цыстэрны аб'ёмам 900 літраў для перавозкі малака, хутказдымнае злучэнне шлангаў да бензавоза, сярэднетанажны танк-кантэйнер для перавозкі кіслот, звадкаваных газаў і іншыя новыя віды прадукцыі.

**— Вырашаючы бягучыя пытанні, кіраўнік заўсёды мае планы на будучыню. Якой яна вам бачыцца ў далейшым развіцці завода?**

— На мой погляд, цяпер многае будзе залежаць ад творчага калектыву завода. Яму трэба будзе выканаць вялікі аб'ём па распрацоўцы канструктарска-тэхналагічнай дакументацыі, вырабу доследных узораў і падрыхтоўцы вытворчасці, каб у любы момант задаволіць попыт на рынку патрэбнай прадукцыі. Мы вызначылі: штоквартальна павінен выпускацца новы выраб. Гэта дазволіць канструктарам, спецыялістам пастаянна быць у пошуку, а рабочым мець занятасць, поўную загрузку і добрую зарплату. Сёння яна прыбліжаецца ў сярэднім да 18 мільёнаў рублёў. Я прыхільнік таго, каб у кішэні вадзіліся сумленна зароблены вялікія грошы, гэтага ж жадаю і кожнаму з членаў свайго працоўнага калектыву. А для таго трэба вельмі многа і сур'ёзна працаваць. Пастараемся ў бліжэйшай будучыні больш эфектыўна выкарыстоўваць вытворчыя плошчы, якіх у нас пад дахам каля дваццаці тысяч квадратных метраў. Патрэбна загрузка. Кожны метр павінен даваць аддачу. Але каб цвёрда стаць на ногі, заводу неабходна і надалей фінансавая падтрымка канцэрна "Белнафтахім". Як дырэктар завода гарантую, што кожны рубель будзе адпрацаваны. Сёння немагчыма будаваць перспектыву без сувязі з навукай. Без яе нам не выжыць. А гэта зноў жа грошы. Патрэбна і пастаянная падтрымка ўлады. Таму што, ствараючы новае, — міжвольна рызыкуеш.



СПОРТ







У алімпійскім спартыўным лагеры "Стайкі" прайшоў летні чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па лёгкай атлетыцы. У гэтых спаборніцтвах прынялі ўдзел наймацнейшыя легкаатлеты нашай краіны.

НА ЗДЫМКАХ: пераможца міжнародных турніраў у Польшчы і Нарвегіі, скакуха ў вышыню, майстар спорту міжнароднага класа па скачках у вышыню Таццяна ШЭЎЧЫК. Яна рыхтуецца да чэмпіянату свету ў Іспаніі; пераможца ў трайным скачку сярод жанчын, майстар спорту міжнароднага класа Жанна ГУРЭЕВА (Брэсцкая вобласць); пераможца спаборніцтваў у кіданні молата сярод мужчын, майстар спорту міжнароднага класа Канстанцін АСТАПКОВІЧ; заслужаны майстар спорту, чэмпіёнка свету, сярэбраны прызёр Алімпійскіх гульняў у кіданні кап'я Наталля ШЫКАЛЕНКА з дачкой Аняй; наймацнейшы кідальнік дыска нашай краіны, чэмпіён Еўропы, сярэбраны прызёр Алімпійскіх гульняў у Атланце Уладзімір ДУБРОЎШЧЫК.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА. БелТА.**



МІНСК, ЗАХАРАВА 28. ДОМ ДРУЖБЫ

Усё гэта карысна. Але ж вельмі ўжо любяць многія замежныя госці неафіцыйныя, нефармальныя абставіны. Некаторыя амерыканцы, відавочна, і будуюць на гэтым свае адносіны з прадстаўнікамі іншых краін. У той год кіраўнік "Сіла ў дружбе" Рычард Фолк прыехаў да нас ужо чацвёрты раз. Ён зноў пачаў запрашаць мяне прыехаць да іх. Рыхтавалася да паездкі група ў складзе семнаццаці чалавек. Адчуўшы, што адмаўляцца ад паездкі ў ЗША на гэты раз нельга, Рычарду Фолку былі выказаны прапановы: згадзіцца на прыезд у складзе дэлегацыі тых людзей, якія змогуць выканаць канцэртную праграму, забяспечыць для гэтага канцэртныя залы, запрасіць у іх людзей, каб яны не былі пустымі. Па-трэцяе, прыцягнуць увагу да нашых чарнобыльскіх праблем, па крайняй меры, арганізаваць на гэтую тэму выставу.

— Ніякіх умоў, — сказаў ён. — Вы проста будзеце нашымі гасцямі, амаль кожны вечар праведзяце ў сем'ях сяброў.

— На гэты раз мне цяжка знайсці час для адпачынку.

— Шкада, але ніякіх удакладненняў я больш чуць не хачу.

Дамоўленасці не атрымалася. Праз некалькі дзён амерыканская дэлегацыя была запрошана ў калгас "Новае жыццё" Нясвіжскага раёна. У клубе вёскі Аношкі наладзілі цудоўны вечар. Усім было прыемна. Гаварылі добрыя словы, удаўся канцэрт самадзейных мясцовых



*У час знаходжання ў ЗША.*

дабрачыннай дзейнасці, а мо і місіянерства.

Асобнай старонкай узаемасувязей грамадскасці Беларусі і ЗША можна лічыць сяброўства з калектывам настаўнікаў і вучняў школы Рамапо, акругі Спрынг Вэлі. Дзякаваць за гэта трэба, у першую чаргу, настаўніку школы Дональду Кэрнсу і былой медыцынскай сястры шпіталя добрых самарыцян Пэт дэ Франчэска, дочкі якой Элізабэт і Габрыэла вучыліся ў гэтай школе. Кэрнс — настаўнік гісторыі, і ў свой час ён вырашыў вывучаць гісторыю Расіі, а затым і Беларусі, прыязджаючы да

зуе прагляд відэафільмаў аб сустрэчах на беларускай зямлі, абмяркоўвае новыя праграмы супрацоўніцтва.

Стасункі Беларускага таварыства дружбы з грамадскасцю Францыі пачалі ладзіцца дзесяткі гадоў таму, калі ўпершыню адбыліся Дні Беларусі ў Ронскім дэпартаменце. Як вынік той акцыі збліжэння народаў — гарады Ліон, Воз-ан-Вілен, Вілербан, Венісьё, Лімож, Клермон-Феран усталявалі партнёрскія адносіны з Мінскам, Оршай, Магілёвам, Жодзінам, Гроднам, Гомелем. Паступова

Арсен ВАНІЦКІ

# АДЦЕННІ ЖЫЦЦЯ

## Урыўкі з главы «У імя будучага»

артыстаў, наладжаны быў нават конкурс лепшых выканаўцаў, што называецца, з двух бакоў. Затым госці былі запрошаны на сяброўскую вячэру. Старшыня калгаса Міхаіл Салепік, які, дарэчы, пабываў да гэтага ў ЗША і адчуваў характары гасцей, чамусьці запытаў, дзе лепш павячэраць.

— Канешне ж, разам з усімі, — адказаў я і ўдакладніў: — А якія яшчэ могуць быць прапановы?

— А можа ў мяне дома ці схадзім у лазню? Там у сталоўцы ўсё будзе добра і без нас.

Урэшце было вырашана прапанаваць яго варыянты Рычарду Фолку. Той згадзіўся на лазню. Аказалася вельмі дарэчы. Калі ён быў ужо на верхнім палку і яго ўжо хвасталі бярозавым венікам, паміж оханнем і аханнем пачулася пытанне: "Якія ты там, Арсень, ставіў умовы перад наведваннем Амерыкі?"

Напомніў першае пажаданне.

— О' кей, — раздаўся узнёслы вокліч. Дабавілі пары. — А другая ўмова?

Прыйшлося прыцісунць некалькі разоў венік і напомніць яму аб ранейшай гаворцы. Як, прынамсі, і на трэцюю прапанову, прагучала традыцыйнае амерыканскае, у данным выпадку, прыемнае на слых "О' кей".

Пасля гэтага ў час паездкі атрымалася так, як належала быць. Сотні жыхароў Вілмара і іншых гарадоў штата змаглі пазнаёміцца не толькі з нашымі людзьмі, але і ўбачыць народнае мастацтва Беларусі, выставу народнай творчасці, экспазіцыю графічных работ народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча. Абыякавых адносін да ўсяго гэтага багацця не было, і, канешне ж, павага да Беларусі ў некаторай ступені, безумоўна, павысілася. Не забыты былі і чарнобыльскія праблемы. Праграмы дапамогі ахвярам катастрофы ўжо разам з галоўным радыёлагам штата Джонам Камеронам прадоўжыліся. На Беларусь сістэматычна пачалі прыязджаць групы моладзі, якія ставілі перад сабой мэту

нас са сваім класам. Для Дональда адукацыя — гэта не толькі падручнікі. Ён гаворыць, што палова адукацыі знаходзіцца па-за школай. Прыемна дапамагаць маладым амерыканцам праводзіць такія паглыбленыя ўрокі. Доўжыцца гэтая праграма ўжо больш за дзесяць гадоў. Шчыра дапамагаюць яе здзяйсненню кіраўніцтва, прадстаўнікі народнай асветы, школьнікі Мінска, Нясвіжскага, Шаркаўшчынскага, Шклоўскага раёнаў. Калектыў мастацкай самадзейнасці школы ўжо ўдзельнічаў у мінскім міжнародным фестывалі "Голас дзяцінства", добра выконвае на беларускай мове нашы народныя песні. Вельмі кранае сэрца, калі гучыць з невялікім акцэнтам песня Юрыя Семяні "Мая Беларусь". Настаўнік гісторыі Дональд Кэрнс аднаначасова і выкладае, і працуе на збліжэнне народаў. У акрузе Спрынг Вэлі калектыў школы Рамапо актыўна папулярызуе Рэспубліку Беларусь. Пасля вяртання ад нас дэлегацыя ладзіць канферэнцыі для бацькоў, навучэнцаў, арганізаваных



*Велапрабег Італія — Мінск — Хатынь.*

складвалася сістэма ўзаемаадносін, якая спрыяла спрадвечнаму пачуццю блізкасці нашых народаў, глыбокай узаемнай цікавасці да пазнання здабыткаў культур.

Асаблівымі для нашых адносін сталі апошнія дзесяць гадоў, калі ўсталяваліся грунтоўныя ўзаемаадносіны з асацыяцыяй "Французская народная дапамога" дэпартамента Поўнач-Па-дэ-Калэ. Як гаворыць Жан Луі Каленс, генеральны сакратар рэгіянальнай асацыяцыі: "Мы працуем дзеля партнёрства, дзеля ўсталявання паміж людзьмі карысных адзін аднаму адносін".



*Удзельнікі Дзён культуры Іспаніі ў Мінску.*

Працяг. Пачатак у №№ 25—27.



**На Гомельшчыне, у Буда-Кашалёўскім раёне, адбыўся міжнародны пленэр жывапісу, прысвечаны памяці славутага земляка, народнага мастака СССР, акадэміка жывапісу Яўсея Маісеенкі. У рабоце пленэра, які праходзіў на малой радзіме мастака — у гарадскім пасёлку Уваравічы, прымалі ўдзел мастакі з Расіі, Украіны і Беларусі. Пасля заканчэння пленэра кожны ўдзельнік паднёс па адной рабоце ў дар музею-галерэі Я. Маісеенкі, што ствараецца ў Буда-Кашалёве.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі міжнароднага пленэра мастак з Жытоміра Валерый РАДЗЕЦКІ і расіянін Леанід ГОМАНАЎ; на эцюдах.**



Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

**СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ**

# ЦІ ЗЛУЧАЦЦА Х. СУЦІН І БЕЛАРУСЬ?

Прысутнасць зоркі — магніт, які прыцягвае ўсё лепшае, што ёсць у культуры. Віцебск, вядомы імёнамі Малевіча і Шагала, прыцягвае да сябе мастакоў (пленэры Шагала), не без прысутнасці сусветна вядомых імёнаў тут нарадзіўся і фестываль — "Славянскі базар"; ад яго адгалінаваліся конкурсы сучаснай класічнай музыкі, тэатра, моды.

Нясвіж з сваёй багатай гісторыі здабыў імёны бліскучых кампазітараў Н. Орды, Радзівіла, В. Казловіча, і на іх фоне нарадзіўся фестываль камернай музыкі, які адразу палюбіўся гараджанам. Яго абавязкова наведваюць прадстаўнікі многіх замежных пасольстваў, а паслы ўмеюць цаніць сапраўдныя каштоўнасці.

Зоркі, нават калі яны запальваліся ў мінулых стагоддзях, гараць і для нашчадкаў. Трэба толькі павярнуць твар да святла, што ідзе ад іх.

Культуролагі многіх гарадоў Беларусі сталі разумець, што новы імпульс культурнаму жыццю горада ці раёна можа даць неардынарная, творчая работа вакол вядомай асобы.

Чэрвень. Культурнае "поле" ўзарана ў райцэнтры і аднайменным раёне традыцыйна. Працуюць з дзесятак клубаў і Дамоў культуры, у іх гурткі. Ёсць народны тэатр. У райцэнтры — школа мастацтваў з аддзяленнямі: харэаграфічным, мастацкім, тэатральным, музычным. 30 бібліятэк перажываюць наведвальніцкі бум (людзі збяднелі і сталі актыўна наведваць чытацкія залы і абанементы). Усюды развіваюцца мастацкія рамёствы. З праблем галоўная — не хапае спецыялістаў. Хоць цяпер раён гатовы прыняць на работу рэжысёра народнага тэатра, харэографа, харавіка.

Трэба аддаць належнае мясцоваму кіраўніцтву: тры працэнты ад бюджэту раёна рэгулярна ідуць на патрэбы культуры. Таму ў раёне няма крайніх сітуацый — клубаў, якія развальваюцца, халодных бібліятэк, музычных школ без інструментаў і г. д.

Але ў аддзеле культуры Чэрвеньскага райвыканкома мараць і складаюць асобыя планы. Датычаць яны "раскруткі" дзвюх зорак. Першая — Станіслаў Манюшка — вялікі кампазітар, роданачальнік нацыянальнай оперы, выхадзец з чэрвеньскага фальварка Убель. Імя — сусветна вядомае. Але на чэрвеньскую зямлю яму яшчэ трэба будзе вярнуцца. Сёлета ў маі споўнілася 180 гадоў з дня яго нараджэння. І на радзіме Манюшкі мноства вялікіх музычных падзей: рэспубліканскі конкурс камерных ансамбляў, канцэрты Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы, прэзентацыя новага зборніка нот твораў вялікага земляка. І вось што клапоціць мясцовых арганізатараў культурнай работы: з заканчэннем юбілею гэты музычны цуд не павінен скончыцца. Вялікую музыку трэба "прыручыць" да чэрвеньскай зямлі. Май і Манюшка не павінны разлучацца на Чэрвеньшчыне.

Другая зорка (аказваецца, бывае і так) зусім невядомая ў Беларусі, але мае сусветную славу. Гаворка ідзе пра унікальнага мастака, які прадстаўляе сабой духоўнае аблічча ХХ стагоддзя (так лічаць мастацтвазнаўцы многіх краін), — Хаіма Суціна.

Суцін нарадзіўся ў 1893 годзе ў Смілавічах. Пешшу хадзіў у Мінск да майстра Кругера на заняткі ў мастацкую школу. Затым для працягу вучобы будучы мастак перабраўся ў Вільнюс. У 20 гадоў ён у Парыжы. З 1918 года на парыжскіх выставах з'яўляюцца яго працы. Як пазней пісалі французскія крытыкі, імпрэсіяністам удавалася спыняць у сваіх карцінах імгненні, Суціну — лёс.

Усё, да чаго дакранаўся пэндзаль Суціна, афарбоўвалася трагізмам. Яго называюць роданачальнікам дэгераізацыі ў жывапісе. Яго нацюрморты, пейзажы, партрэты пазбягаюць традыцыйнага любавання прадметамі. Ён адкрыта палемізуе з Рэмбрантам: суцінскія нацюрморты з целамі забітых птушак і жывёл крычаць пра жорсткую цывілізацыю, створаную чалавекам. Даследчыкі гавораць, што Суцін, як і Шагал у сваім "Белым распяцці", прадчуваў халакост, грамадзянскія, экалагічныя войны. Суціна сёння называюць то абстрактным імпрэсіяністам, то супернатуралістам, то паэтам апакаліпсіса.

Лічаныя работы маэстра свецяцца цяплом і пяшчотай. Магчыма, іх усяго дзве — "Вяртанне са школы" і "Пасля навальніцы". На абедзвюх тыповы беларускі пейзаж. Менавіта пад беларускім небам, на чэрвеньскай зямлі, цяплела яго сэрца.

Два гады назад у Музеі сучаснага мастацтва імя Ж. Пампіду ў Парыжы на персанальнай выставе Х. Суціна пад яго работамі значылася: "Хаім Суцін. Месца нараджэння Смілавічы. Літва". Суайчыннікі, якія былі на выставе, заўважылі памылку. Арганізатары абяцалі папраўіць абазначэнне краіны, у якой нарадзіўся мастак, але памылка паўтараецца зноў і зноў. І на нядаўняй рэтраспектыўнай выставе карцін Суціна ў Нью-Йорку, і ў прыгожым каталогу гэтай выставы ўсё было па-ранейшаму. Суцін і Беларусь не злучыліся.

Хавалі Суціна ў канцы другой сусветнай вайны яго сябры — Пабла Пікасо, Жан Както, Макс Жакоб на Манпарнаскіх могілках і там, на могілках, прадказвалі яму пасмяротную сусветную вядомасць.

У свой час у Беларусі замоўчвалася імя Марка Шагала, цяпер гэтая памылка выпраўлена. Але нам яшчэ трэба будзе вярнуць на радзіму, на Чэрвеньшчыну, Хаіма Суціна, адкрыць для суайчыннікаў мастака, які змог вырвацца з нацыянальных межаў і стаць здабыткам усяго чалавецтва.

У аддзеле культуры Чэрвеньскага райвыканкома па крупінках збіраюць усё, што звязана з імем Суціна. Арганізацыйны парыў мясцовых культуролагаў вярнуць радзіме вялікае імя заслугоўвае ўсялякіх пахвал. Але сціплых раённых трох працэнтаў на культуру ў гэтай справе яўна не хопіць. Мясцовыя энтузіясты шукаюць мецэнатаў, пераконваюць дзяржаўныя структуры падтрымаць арганізацыйна і фінансава акцыю "Суцін".

Імкненне чэрвеньцаў вярнуць Суціна пад неба радзімы — крок адчайна смелы для нашага цяжкага часу. Але лёгкім час не будзе ніколі. Таму вітаем пачатак...

**Ірына ГУРЫНОВІЧ.**

**АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

Паважаны Яўген Лецка!

Рады быў атрымаць ад Вас ліст. Беларускі рух на Галічыне, да якога і Вы прыклалі сваю добрую руку, патроху замірае. Прычын тут некалькі, але, на мой погляд, галоўная — гэта беларускі тупік у плане нацыянальнага руху. Таму адносіны да беларусаў Галічыны ўладаў Львова, мякка кажучы, пахаладнелі, а прасцей, маўклівая згода — падобная ціхай здрадзе не толькі Украіне, а і ўсёй Еўропе, — такі вердыкт Заходняй Украіны да Беларусі. Гэта ўсё ўскладняецца ўсеагульнай "саўковасцю", нацыянальнай фрыгіднасцю большасці так званых беларусаў. Я зараз не бачу магчымасці актыўнай беларускай працы, таму займаюся патроху літаратурай, часцей у шуфляду, але дзе што друкую. Запачаткаваў сваю газету "Галіцкая Рунь", у газетах Украіны, у "Беларускім дайджэсце" можа чыталі два артыкулы. Можна было б паказаць Вам і параіцца наконт іншых матэрыялаў. Штось маўчыць наша "Бацькаўшчына". Як яна там? Ці плануецца якая-небудзь сустрэча Рады ці іншая імпрэза з боку "Бацькаўшчыны"? Чарканіце мне, як будзе магчымасць.

З павагаю

**Барыс ЦІМОШЧАНКА,**
**старшыня суполкі "Белая Русь".**
Украіна, г. Львоў.

**ЗАМЕЖЖА**

# БЕЛАРУСКІЯ ЯЎРЭІ Ў ЗША

**Паводле даных Сусветнага яўрэйскага кангрэса, у 1996 годзе ў ЗША жыло 5 мільёнаў 800 тысяч яўрэяў. Большая частка — ураджэнцы Расійскай імперыі, іх дзеці, унукі і праўнукі.**

**Яўрэйскія пагромы ў Расіі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў выклікалі масавае перасяленне яўрэяў у Амерыку. У выніку масавай эміграцыі з 1881 па 1908 год з Расіі толькі ў ЗША выехала звыш паўтара мільёна яўрэяў. За перыяд 1881—1924 гадоў з Расіі і Усходняй Еўропы ў ЗША прыбыло 2,5 мільёна яўрэяў. Дзесяткі, а можа і сотні тысяч былі ўраджэнцамі Беларусі.**

**Асноўнымі крыніцамі данага артыкула сталі архіўныя матэрыялы, энцыклапедычныя выданні, даведнікі, мемуарная літаратура, матэрыялы перыядычнага друку.**

● **Эмануіл ІОФЕ,** *акадэмік Міжнароднай акадэміі і вывучэння нацыянальных меншасцей, прафесар, доктар гістарычных навук.*

Многія беларускія яўрэі сталі ў Злучаных Штатах Амерыкі вядомымі кампазітарамі, пісьменнікамі, журналістамі, мастакамі, акцёрамі, вучонымі, палітычнымі і прафсаюзнымі дзеячамі.

Бадай, найбольшую вядомасць набыла творчасць магілёўскіх яўрэяў — Мадэста Альтшулера і Ірвінга Берліна.

Віяланчэлістам і дырыжорам з сусветным імем стаў Мадэст (Маісей) Альтшулер (1873—1963). Калі ў 1895 годзе юнак прыехаў у ЗША, у яго ўжо быў дыплом Маскоўскай кансерваторыі. Мадэст Альтшулер быў адным з арганізатараў і ўдзельнікаў Маскоўскага трыо (разам з піяністам Д. Шорам і скрыпачом Д. Крэйнам). Яшчэ жывучы ў Расіі, ён сумесна з Шорам заснаваў у Маскве "Гістарычныя камерныя раніцы". У 1903 годзе Мадэст Альтшулер арганізаваў у Нью-Йорку "Рускае сімфанічнае таварыства", у канцэртах якога выступалі Сяргей Рахманінаў, Аляксандр Скрабін, Сяргей Пракоф'еў. Аркестр пад кіраўніцтвам Альтшулера ўпершыню ў ЗША выканаў усе сімфоніі, сімфанічныя паэмы — "Паэма экстазу" (сусветная прэм'ера), "Праметэй" Скрабіна, 2-ю сімфонію Рахманінава. "Рускае сімфанічнае таварыства" праіснавала да 1919 года. Мадэст Альтшулер быў аўтарам аркестравых транскрыпцый фартэпіяннага трыо П. Чайкоўскага.

Імя таленавітага амерыканскага кампазітара Ірвінга Берліна вядомае сёння кожнаму амерыканскаму школьніку. Яго сапраўднае імя і прозвішча — Ізраіль Бейлін. Ён нарадзіўся 11 мая 1888 года ў Магілёве ў сям'і кантара. У 1893 годзе пяцігадовы Бейлін разам з бацькамі прыехаў у ЗША, дзе жыў у бедным прадмесці Нью-Йорка. Ён скончыў усяго два класы школы і з 13 гадоў пачаў сваю працоўную дзейнасць з продажу газет, але потым выявіў у сабе музычныя здольнасці. З гэтага часу Берлін стаў спяваць у барах, разлічваючы толькі на чаявыя.

У 19-гадовым узросце Ірвінг Берлін напісаў сваю першую песню "Марыя з сонечнай Італіі", якая зрабіла яго імя папулярным. У 1910 годзе ён упершыню прыняў удзел у стварэнні мюзікла "Уверх і ўніз па Брадвеі".

У жыцці гэтага музыканта было нямала дзіўнага. Хаця з 1909 года ён стаў "штатным" кампазітарам адной музычнай кампаніі, у яго не было спецыяльнай музычнай адукацыі. Але затое ў



Ірвінга Берліна быў багаты дар меладыста, што дазволіла яму ствараць песні, якія доўгія гады карысталіся і карыстаюцца поспехам у слухачоў.

Найбольш папулярныя лірычныя песні Ірвінга Берліна прыйшлі з яго мюзіклаў. "Глядзі на свае сляды" (1914) стаў першым мюзіклам, для якога ён поўнасцю напісаў партытуру і лірычныя песні. Пра сваю службу ў пяхоце ў гады першай сусветнай вайны Берлін напісаў мюзікл "Гіп-гіп, Япхэнк!"

У 1919 годзе Ірвінг Берлін заснаваў сваю музычную фірму, якая стала выпускаць пласцінкі з запісамі яго музыкі. З 20-х гадоў ён пачаў пісаць музыку да мастацкіх фільмаў. Вялікім поспехам карыстаўся ў краіне мюзікл І. Берліна "Калі тысячы апладзіруюць", створаны ім у 1933 годзе.

Знамянальным у жыцці нашага земляка стаў 1939-ты год. Тады 11 лістапада ўпершыню была выканана натхняючая і патрыятычная песня Ірвінга Берліна "Божа, благаславі Амерыку!". Праз некалькі дзён яе спявала ўся краіна. Песня стала неафіцыйным нацыянальным гімнам ЗША.

Памятным у жыцці І. Берліна быў і 1942 год. Пласцінка "Белае нараджэнне", запісаная ў той час, увайшла ў Кнігу рэкордаў Гінеса як самая тыражуемая ў свеце (100 мільёнаў экземпляраў). Менавіта ў 1942 годзе Берлін стварае мюзікл "Вось гэта армія!", за які ў 1945 годзе яго ўзнагародзілі медалём "За заслугі".



УРАЖАННЕ

● Васіль АЎРАМЕНКА.

# ЛЮБІЦЬ РАДЗІМУ – СПРАВА МАЦНЕЙШЫХ?

Спадарства! Беларуская літаратура яшчэ жывая! Бяруся гэта сцвярджаць, пазнаёміўшыся з раманам Юры Станкевіча "Любіць ноч — права пацукоў". На працягу года, начытаўшыся іншых твораў, думаў, што літаратура канае. Але ж не — пакуль жыве і нават брыкаецца. Хаця аптымізму, сказаць шчыра, і ў Станкевіча няшмат. І ўсё ж проза яго — жывая, бо — нечаканая і новая, бо — пакідае надзею на працяг, на няпэўную і жахлівую, але ж — будучыню.

Па традыцыйных мерках — псіхалагічны дэтэктыў, па злабадзённасці тэмы — амаль публіцыстыка, па грамадзянскім рэзанансе — нацыянальна-палітычны маніфест, па вызначэнні самога аўтара — раман. Рэч неадназначная і прыкметная ў прыцемках сённяшняга жыцця і літаратуры. Яркая па форме і нежартоўнаму напалу страсцей, неадназначная — таму, што нясе вялікі зарад разбуральнай і стваральнай энергіі.

Менавіта так мне бачыцца "Любіць ноч..." з сённяшняга пункту гледжання. Гэта ніякім чынам не гарантуе, што з цягам часу раман не набудзе іншых адзнак, тым больш, што такія падставы ў яго ёсць.

Як мастацкі опус, ён рэпрэзентуе суб'ектыўны свет аўтара, і свет, трэба сказаць, даволі змрочны. Як публіцыстычны твор, ён не толькі ставіць "дыягназ" нашаму грамадству — глыбокая маральная і сацыяльная кома, этнічная перадагонія, — але і прапануе сродак выхаду з яго. Вось гэтым апошнім ён, бадай, і адрозніваецца ад традыцыйнай беларускай літаратуры, якая пасіўна перажывае нацыянальныя крыўды і няўдачы. Аднак для актыўнага дзеяння спачатку трэба вызначыць каардынаты, аддзяліць свайго ад чужога, ворага ад саюзніка. Ужо на гэтым этапе ў аўтара ўзнікаюць праблемы: ворагі (чужынцы-прыхадні) пладзяцца, як пацукі, сярод сваіх жа ўсё больш здраднікаў, што працуюць на карысць праціўніка, а кола патэнцыяльных саюзнікаў катастрафічна звужаецца да ...аднаго чалавека. У такой сітуацыі застаецца адзіна магчымае выйсце — дакладна разлічаны кропкавы ўдар па самым слабым месцы ворага.

Удар у галоўнага героя атрымаўся ўдалы, раптоўны і хуткі, ён дасягнуў свае мэты. Аднак галоўнай праблемы не вырашыў: ворагі засталіся, памяняўшы толькі дыслакацыю і стаўшы больш асцярожнымі. Сам жа ўчынак галоўнага героя набыў, бадай, сімвалічны характар, прадэманстраваўшы зрух з "мёртвай кропкі", магчымасць актыўнага супрацьдзеяння злу ў амаль бязвыхаднай сітуацыі. У рэальным жыцці варункі складваюцца, калі і не горш, то значна складаней, бо далёка не ўсе "чорныя" гандлююць наркатой і гвалцяць нашых дзяўчат, ды і нашыя не так ужо пагалоўна супрацоўнічаюць з прыхаднямі-"пацукамі". Аднак праблема існуе, а дзякуючы мастацкаму таленту аўтара толькі паўстала больш востра і балюча. Хаця існуе яна і ў Літве, і ў Польшчы, і ў Германіі, дзе таксама нямала чужынцаў і "бежанцаў". Але там гэта эканамічная, а не нацыянальна-духоўная драма, бо ні палякам, ні немцам не пагражае пакуль этнічнае знікненне. У іх сітуацыя кантралюецца прававымі і палітычнымі сродкамі, адсочваецца кампетэнтнымі дзяржаўнымі ўстановамі. У нас жа ўладамі ігнаруецца і сама праблема этнічнакультурнай агрэсіі з Усходу, і існаванне масавай незаконнай іміграцыі, а тым больш — правы карэннага беларускага насельніцтва. На фоне татальнага збяднення і бяспраўя народа гэта спараджае добрыя ўмовы для пошуку "вінаватых". Сёння, можна сказаць, нарастае падспуднае сацыяльнае чаканне экстрэмізму, і таму герой Ю. Станкевіча ў значнай меры запатрабаваны грамадствам. Раман стаў раптоўнай і ... даўно жаданай з'яваю, бо мастак выказаў агульны настрой і тэндэнцыю часу.

І ўсё ж трэба адзначыць, што экстрэмізм не адзіная і, я спадзяюся, не галоўная тэндэнцыя, не магістральны шлях нашага нацыянальнага станаўлення. Ноч, у рэшце рэшт, час не толькі пацукоў, але і закаханых, час не толькі разбурэння, але і падсвядомага выспявання планаў і мэт. Па вялікім рахунку, ноч прымае рашэнні, ранак дэкларуе, а дзень — рэалізуе іх. Любіць радзіму ў самую цёмную і жахлівую ноч — справа няпростая. Лягчэй праклясці і адпіхнуць. Але ж калі не любіць яе ў ганьбе і змроку, то яна не дацягне і да раніцы.

Любіце радзіму ў любы час, хоць яна (любоў) заўсёды без адказу. І для яе не абавязкова знішчаць "пацукоў", іх можна прывучаць ці, прынамсі, вымушаць жыць па нашых правілах. Галоўная праблема не ў сіле нашай нянавісці, а ў слабасці нашай любові. Калі зменімся мы самі (беларусы, палякі, яўрэі, рускія, украінцы ды іншыя карэнныя насельнікі Беларусі) — тады зменіцца і наваколле, схлыне ноч, знікне пагарда да нас сяброў і ворагаў. Скінуць сацыяльную апатыю і нацыянальна-духоўную летаргію — вось да чаго, на маю думку, скіраваны раман Ю. Станкевіча "Любіць ноч...".

АНШЛАГ

## ВЯЛІКІ ПОСПЕХ «МАЛЕНЬКАГА ЛОРДА...»

Пастаянныя аншлагі ў зале Тэатра юнага гледача ў час спектакля "Маленькі лорд Фаўнтлярой" — яскравае сведчанне таго, што гэты спектакль адпрацаваў першы тэатральны сезон на "выдатна". Заўважым, доўжыцца ён амаль тры гадзіны, а паказваюцца на сцэне не якія-небудзь ашаламляльныя прыгоды іншапланецян ці, горш за тое, якія-небудзь "крутыя" жахі — на сцэне ТЮГа спакваля прыгожа разгортваецца кранальны цуд: чулы, высакародны хлапчук сваёй шчырасцю і любоўю паступова перавыхоўвае даволі ўпартага, нават жорсткага чалавека, свайго дзядулю, які ва ўсім расчараваўся і, па сутнасці, страціў смак жыцця. П'есу паводле аднайменнай аповесці амерыканскай пісьменніцы Фрэнсіс Бернет напісаў Мікіта Воранаў. Пераказаў яе па-беларуску паэт Артур Вольскі. Твору даў сцэнічнае жыццё рэжысёр-пастаноўшчык Андрэй Андросік, яму дапамагаў рэжысёр Мікалай Хадзько.

Густ рэжысёра-пастаноўшчыка А. Андросіка не падвёў, калі ён задумаў даць сцэнічнае жыццё аповесці, якою дзеці, на жаль, не зачытваюцца хоць бы таму, што яна не забаўляльная, не прыгодніцкая, а сур'ёзная, бо змагаецца за справядлівасць, за чалавечнасць, за дабро.

Цалкам апраўдаў сябе смелы крок Андрэя Андросіка — запрасіць на ролю маленькага лорда школьнікаў Мікіту Гузоўскага і Дзяніса Ліпніцкага. Хто шукае, той знаходзіць! Таленавітых хлопчыкаў ён знайшоў дзякуючы тэлевізійнай дзіцячай студыі Таццяны Кіракозавай і конкурсу дзіцячых калектываў, які праходзіў у Мінску.

"Спектакль ствараўся з разлікам на тое, што яго будуць глядзець дзеці разам з дарослымі, найлепш — з бацькамі, — тлумачаць яго стваральнікі. — Сёння гэта адзін з асноўных творчых накірункаў тэатра".

Трэба дадаць, што Андрэй Андросік, як ніхто іншы, зразумеў: у грамадстве так нестае ўвагі і любові з боку бацькоў да дзяцей і іх здружыць можа і павінна высакароднае мастацтва. Менавіта з яго прыходам тэатр юнага гледача ператвараецца з тэатра лёгкай забавы ў сапраўдны НАЦЫЯНАЛЬНЫ дзіцячы тэатр. Дык скажам яму: дзякуй, цудоўны творца. Новых поспехаў!

Васіль ЗАПАВОЛЕНЫ.

ЛЁСЫ



Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

На месцы подзвігу, у вёсцы Чырвоная Слабада Дубровенскага раёна, адбылося перапахаванне праху Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Сапрыкіна. Больш за 35 гадоў лічылася, што капітан Савецкай Арміі, камандзір батальёна Уладзімір Сапрыкін загінуў у няроўным баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і пахаваны ля вёскі Чырвоная Слабада Дубровенскага раёна, пасмяротна яму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Але Уладзімір Аляксеевіч не загінуў у тым баі, а быў цяжка паранены і трапіў у палон, прайшоў праз многія фашысцкія турмы і канцлагеры. Вясной 1945 года быў вызвалены войскамі саюзнікаў. Далей яго "адысея" працягвалася за акіянам, у Канадзе. Працаваў грузчыкам, шафёрам, інжынерам, марыў аб вяртанні на Радзіму.

А на Радзіме нараджаліся ўсемагчымыя версіі. У выніку ў 1977 годзе Сапрыкін быў пазбаўлены звання Героя Савецкага Саюза, якога ўдастоіўся ў 1944 годзе за здзейснены подзвіг ля Чырвонай Слабады. Высокае званне вярнулі яму... толькі ў 1991 годзе. Але сам Уладзімір Аляксеевіч не дачакаўся гэтай радаснай падзеі. Яго не стала 24 красавіка 1990 года, і пахаваны ён быў у чужой краіне.

Дзякуючы намаганням яго землякоў з Ліпецкай вобласці і садзейнічанню ўлад Беларусі, капсулу з прахам Героя з Канады даставілі ў Мінск, а затым у Дуброўна, дзе і адбылося перапахаванне праху Уладзіміра Сапрыкіна ў брацкую магілу.

У 1950 годзе вялікім поспехам у ЗША карыстаўся мюзікл І. Берліна "Называйце мяне мадам".

Да сённяшняга часу застаюцца папулярнымі песні Берліна "Шчаслівыя канікулы", "Велікодны парад", простыя рамантычныя мелодыі яго кампазіцый "Заўсёды", "Помні", "Зусім адзін", музыка да мюзікла "Няма бізнесу лепшага, чым шоу-бізнес".

Пасля другой сусветнай вайны Ірвінг Берлін быў у зеніце славы. Калі адзін амерыканскі аглядальнік папрасіў музычных крытыкаў вызначыць месца гэтага кампазітара ў амерыканскай музыцы, ён атрымаў такі адказ: "Ірвінг Берлін ніякага месца не займае. Ён і ёсць амерыканская музыка".

На адным з прыёмаў у 1960 годзе І. Берлін знаёміцца з кандыдатам у прэзідэнты ЗША Джонам Кенэдзі і яго прыгожай жонкай Жаклін. Іх звязвала цесная дружба. Менавіта тады і стварыў кампазітар свой славуты мюзікл "Містэр прэзідэнт", прысвечаны Джону Кенэдзі і яго сям'і. Неўзабаве Ірвінга Берліна запрашаюць у Белы дом і ўручаюць яму залаты медаль "у знак нацыянальнага прызнання яго заслуг" у стварэнні патрыятычных песень і асабліва за песню, "Божа, благаславі Амерыку". Урад Францыі ўзнагародзіў амерыканскага кампазітара ордэнам Ганаровага легіёна.

У 1977 годзе І. Берлін быў узнагароджаны прэзідэнцкім медалём Свабоды.

Да свайго стогадовага юбілею Ірвінг Берлін стварыў паўтары тысячы песень, напісаў музыку да 19 тэатральных пастановак і 15 фільмаў.

Патрыярх амерыканскай музыкі Ірвінг Берлін памёр у Нью-Йорку 22 верасня 1989 года. Яму ішоў 102-гі год.

ПРЫЗНАННЕ мільёнаў аматараў музыкі атрымала дзейнасць арыгінальнага і непаўторнага амерыканскага кампазітара і піяніста Луіса Грунберга (1884—1964). Гэты вялікі музыкант нарадзіўся ў беларускім горадзе Брэсце (Брэст-Літоўску). Асноўныя творы Грунберга — гэта Джаз-сюіта, тры сімфоніі (Першая, 1919; Другая, 1942; Пятая, 1948), Амерыканская сюіта, сімфанічная паэма "Узгорак мараў", Танцавальная рапсодыя для скрыпкі з аркестрам, Другі канцэрт для фартэпіяна, Канцэрт для скрыпкі. Усеагульнае прызнанне атрымалі яго оперы: "Імператар Джон", "Каралева Алена" і інш. Мільёнам амерыканцаў даспадобы містэрыя Грунберга "Цуд Фландрыі", яго музыка да тэатральных спектакляў і мастацкіх фільмаў.

Вядомы амерыканскі імпрэсарыо Макс Рабінаў нарадзіўся ў беларускім горадзе Магілёве ў 1879 годзе. Пасля прыезду ў ЗША у 1892 годзе ён вучыўся ва універсітэце штата Ілінойс. Неўзабаве Рабінаў стварыў арганізацыю, якая аб'ядноўвала ўсе польскія газеты, што выходзілі ў краіне (а іх было дваццаць адна), і два гады быў яе прэзідэнтам. У 1907 годзе ён заняўся арганізацыяй канцэртаў для шырокіх слаёў насельніцтва. М. Рабінаў першым у ЗША ўвёў нядзельныя канцэрты. У тым жа годзе ён заснаваў Чыкагскі філарманічны аркестр і запрашаў для выступлення ў ім сусветна вядомых музыкантаў, многія з якіх упершыню гастралявалі ў ЗША. Менавіта Макс Рабінаў пазнаёміў амерыканскую публіку з рускім балетам, Украінскім народным хорам, імператарскім аркестрам балалаечнікаў. Менавіта наш зямляк арганізаваў у ЗША выставы работ Л. Бакста, М. Дабужынскага, К. Каровіна і іншых вядомых рускіх мастакоў. У 1922 годзе М. Рабінаў арганізаваў і ўзначаліў Амерыканскі інстытут оперы і прыкладнога мастацтва.

Макс Рабінаў быў не толькі вялікім імпрэсарыо, але і таленавітым эканамістам, аўтарытэтным экспертам па эканамічных пытаннях. У 1917 годзе ён — эксперт па справах Расіі пры амерыканскім урадзе ў Вашынгтоне. У 1919—1921 гадах Рабінаў знаходзіўся ў Парыжы, быў эканамічным саветнікам урадаў Эстоніі, Грузіі, Азербайджана, Украіны.

МНОГІЯ беларускія яўрэі сталі ў ЗША бліскучымі пісьменнікамі, публіцыстамі, крытыкамі, выдаўцамі.

Сусветную вядомасць атрымалі творы ўраджэнца мястэчка Узляны Ігуменскага павета Мінскай губерні, амерыканскага пісьменніка Юджына Лайанса "Жыццё і смерць Сака і Ванцэці" (1927), "Маскоўская карусель" (1936), "Заданне ва Утопіі" (1937), "Сталін — цар усяе Русі" (1940), "Нашы сакрэтныя саюзнікі: Людзі Расіі" (1953). Будучы пісьменнік прыбыў у ЗША у дзевяцігадовым узросце. Ю. Лайанс вучыўся ў Калумбійскім універсітэце, працаваў рэпарцёрам, вольным журналістам у Францыі і Італіі, рэдактарам у ілюстраваным выданні "Советская Россия", бюро ТАСС. У 1928—1934 гадах ён з'яўляўся карэспандэнтам Юнайтэд Прэс у Маскве. Ю. Лайанс працаваў у выдавецтве "Амерыканскі Меркурый" (1939—1944 гады) і "Рыдэр Дайджэст" (з 1945 года).

Асобая старонка біяграфіі пісьменніка — яго дзейнасць у 1951—1952 гадах. У гэты час Ю. Лайанс быў старшынёй Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму.

Тут, у ЗША, жыў і тварыў класік яўрэйскай літаратуры магіляўчанін Давід Пінскі (1872—1959). Хаця яго літаратурная дзейнасць пачалася ў Вене і Варшаве, росквіт творчасці Пінскага прыпадае на нью-йоркскі перыяд яго жыцця (1899—1949). Менавіта тут адзін з самых таленавітых яўрэйскіх драматургаў ствараў драмы "Маці", "Шчасцем забытыя", "Янкель-каваль", "Вечны жыд", "Скарб", "Габры і жанчыны". У 1906—1907 гадах у Нью-Йорку выйшаў двухтомнік прозы Д. Пінскага. Шырокую вядомасць атрымалі п'еса драматурга "Давід і яго жонкі" і іншыя творы на біблейскія тэмы, яго раман "Разарваны чалавек". Давід Пінскі быў адным з заснавальнікаў Сусветнага культурнага кангрэса ў Нью-Йорку ў 1948 годзе, з'яўляўся першым прэзідэнтам яўрэйскага ПЕН-клуба.

(Працяг будзе).

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ


Іна КАЗЛОВА на свяце.

# І ЗНОЎ КУПАЛЛЕ...


*У ноч на Івана-Купалу ў гарадскім пасёлку Руба, што пад Віцебскам, прайшло фальклорнае свята “Купальская ноч”.*

Адным з найбольш яркіх і паэтычных абрадаў у беларусаў было свята Купалле, якое спрадвеку адзначалася ў самую кароткую летнюю ноч — з 23 на 24 чэрвеня. З прыняццем хрысціянства і збліжэннем гэтага язычніцкага свята са святам у гонар Івана Хрысціцеля дата яго правядзення была перанесена праваслаўнымі на ноч з 6 на 7 ліпеня.

Беларускае Купалле прайшло праз многія стагоддзі (упершыню яно ўпамінаецца ў летапісах 1175 года), у нечым змянялася і ў рэшце рэшт сфарміравалася ў складаную і вельмі прыгожую сістэму абрадавых дзеянняў, варажбы, павер'яў, песень і паданняў. У аснове ўсёй купальскай абраднасці ляжыць пакланенне нашых продкаў сонцу (агню), вадзе і расліннасці.

Святкаванне Купалля звычайна адбывалася на традыцыйным рытуальным месцы, дзе вяскоўцы заўсёды адзначалі найбольш значныя падзеі. Падрыхтоўка да свята вялася на працягу ўсяго дня. Хлопцы збіралі для свяшчэннага вогнішча розную старызну — паламаныя колы, зношаныя лапці, адзенне, галінкі “маю” ці нават цэлыя засохлыя бярозкі, захаваныя яшчэ ад Сёмухі.

Дзяўчаты і жанчыны ў гэты час адпраўляліся збіраць купальскія травы і кветкі, лекавыя расліны. Імі пасля асвячэння ў царкве лячылі на працягу года членаў сям'і і жывёлу. Маладыя дзяўчаты збіралі “прываротнае зелле” — расліны, што валодалі магічнай сілай, з дапамогай якіх можна прываражыць да сябе жаніха. Такія рытуальныя купальскія расліны — купалкі, папараць, канюшына, ліпнік, ружа. Гэтыя кветкі дзяўчаты ўплаталі ў вянок, аздаблялі імі валасы, вопратку.

Пачатак свята меў пэўныя адметныя рысы ў розных мясцовасцях. Найчасцей святкаванне распачыналася, калі моладзь збіралася гуртам і кіравалася на выбранае месца. Гэта магло быць узбярэжжа ракі ці возера, які-небудзь пагорак, невялікая паляна ці проста ўскраіна гаю.

Свята пачыналася з распальвання вогнішча, у сярэдзіну якога ўстаўлялася шостка з драўляным абсмаленым колам і прывязаным да яго жытнёвым снапом... Дарэчы, у некаторых мясцінах яшчэ да апошняга часу “жывы” агонь здабывалі не з дапамогай запалак, а так, як гэта рабілі нашы прашчуры, — доўга і цярпліва церлі адну аб адну драўляныя палачкі...

Пасля распальвання агню дзяўчаты смажылі яечню і ладзілі сумесную вячэру. І пачыналіся бясконцыя гульні і карагоды.

Як толькі спадала полымя агню, хлопцы і дзяўчаты скакалі праз вогнішча. Акрамя таго, на Купалле абавязкова ўмываліся ранішняй расою, купаліся, качаліся па расе ў жыце: лічылася, што вада ў гэтую ноч валодае гаючай, жыватворнай сілай, робіць людзей прыгожымі.

Купальскае свята багатае на паданні і легенды. Так, нашы продкі верылі, што ў гэтую ноч рэкі свецяцца незвычайным святлом, а дрэвы і травы размаўляюць паміж сабой і нават могуць пераходзіць з месца на месца.

Вельмі прыгожая беларуская легенда звязана з кветкай папараці, якая расцвітае толькі адзін раз у год — менавіта ў купальскую ноч. Але шлях да яе перагароджваюць ведзьмакі і нячыстая сіла, якія правяць у гэтую ноч свой шабас. Папараць-кветкі бесперашкодна збірае толькі Купальскі дзядок. Калі сустрэцца з ім і разасланы перад ім белы абрус, то ён кіне на яго адну кветку. Хапай тады хутчэй яе і, разрэзаўшы далонь правай рукі, кладзі пад скуру: адтуль нячысцік не дастане. Шчаслівы ўладальнік цудоўнай кветкі атрымлівае дар ведаць пра ўсё на свеце і асабліва ведае, дзе якія скарбы ляжаць і як да іх прыступіцца.

Дзяўчаты на Купалле варажылі аб будучым замужжы: пускалі па вадзе вянкі і глядзелі: куды яны паплывуць — у той бок дзяўчына пойдзе замуж. Калі ж вянок патоне, гэта прадвяшчае няшчасце і нават смерць. Амаль па ўсёй Беларусі варажылі на раслінах. Вось як выглядала варажба на трыпутніку: перад тым як пайсці спаць, дзяўчаты ішлі на раздарожжа і, не дакранаючыся рукамі, зубамі зрывалі трыпутнік, прыносілі яго дахаты, клалі пад падушку (пры гэтым нельга было ні з кім размаўляць!). Перад сном казалі рытуальнае заклінанне:

Папутнік — трыпутнік,
Ты стаіш пры дарозе,
Бачыш старога й малога —
Пакажы мне майго мілога.

Наогул, Купалле — гэта свята маладосці і кахання. Усю ноч вакол купальскага вогнішча гучаць песні, водзяцца карагоды. Купальская ноч вызначаецца таксама поўным разнявольваннем і свавольствам моладзі: хлопцы загароджвалі дарогі, знімалі дзверы хаты ці частку плота, падпіралі калодай дзверы, каб ніхто не мог выйсці і гэтак далей.

Самая кароткая летняя ноч праляцела непрыкметна. Усе ўдзельнікі свята ішлі сустракаць узыход сонца. Казалі, у гэтую раніцу яно выплывала з-за гарызонту як бы “іграючы”, танцуючы. Адзін са старажытных міфаў наступным чынам тлумачыць гэту асаблівасць: “Сонца, што знаходзіцца ў самым росквіце прыгажосці, едзе на пачатку дня да свайго мужа — лета, прычым калясніца запрэжана чарадзейнай тройкай, з-пад якой сыплюцца залацістыя іскры”. Тыя ж, хто сустракаў усход сонца каля вады, назіралі, як яно нібыта іграе, нібыта купаецца. Магчыма, ад гэтага і паходзіць назва — Купалле?

Падрыхтавала
**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



*Свята “Купальская ноч”.*

**Уладзімір ЛІПСКІ**

# МАМА

## МАЛІТВА СЫНА

* * *

Мама нарадзілася ад Адама і Пелагеі Янушэўскіх.

Людзі гэтыя, як і божыя выганнікі Адам і Ева, зараблялі хлеб потам. Арандавалі зямлю ў памешчыка. Пасля ўзбіліся на капейчыну і купілі кавалак зямлі. Мусілі рыхтаваць пасаг дочкам — Анюці, Агаці, Мані, сынам — Міколу, Паўлу, Юзіку.

Жылі Янушэўскія ў вёсцы Вялікі Лес, пад Жлобінам.

Адам быў нізкага росту, шчуплаваты. Насіў светлыя вусы. І любіў пакручваць іх, як чытаў газету. Ён ганарыўся, што ўмеў чытаць. Калі пачалі зганяць землеўласнікаў у калгас, калі абагульнялі жывёлу, Адам Янушэўскі выйшаў з газетай на вуліцу, сабраў суседзяў і прачытаў ім: “Калгасы — справа добраахвотная”. Ад сябе дадаў: “Тут напісана, па адной карове можна сабе пакінуць. Не бойцеся!..”

У хуткім часе Адам Фларыянавіч памёр. А калі пачаліся рэпрэсіі, бацькава чытанне прыгадалі сыну Паўлу. Прыехаў ноччу варанок, адарвалі мужыка ад жонкі-парадзіхі, давезлі да Гомеля і там... расстралялі як агента буржуазнай Польшчы. Пазней папрасілі ў дзяцей прабачэння. Ды ўсё гэта, як любіў казаць сам Адам, — кату пад хвост.

Найменшы ў сям'і Юзік узначальваў камсамольскую ячэйку. Але яго жыццёвая свечка аказалася вельмі кароткай.

Старэйшы Мікола атабарыўся на бацькоўскім селішчы. Там пражыў жыццё з Дар'яй Трацэўскай. Састарыўся ды ціха і памёр.

У Адамавых дачок — свой лёс.

Агата выйшла замуж за Яленскага. І жыла з ім у любасці пад Мінскам, у Сцяпянцы.

Анюта і Маня другі раз павыходзілі замуж у Шоўкавічы, што пад Шацілкамі (цяпер — Светлагорск).

Анюта пражыла 83 гады. І перад смерцю казала мне:

— Маня — мая самая любімая сястра. Каб мы з ёй калі паругаліся? Аніколі! Усё жыццё — разам. Дня не праміналі, каб не сустрэцца, не пагаварыць. Яна была маім самым верным другам у жыцці...

Гэта і ёсць мая Мама — Маня, Марыя Адамаўна.

* * *

Божанька здувае з неба апошнія сняжынкі. Яны, рэдкія і дробныя, неахвотна апускаюцца на зямлю. Як бы разумеюць, бачаць, што зямля ўжо чорная, крыху разамлелая.

Валадаркай на небе ўсё часцей становіцца сонца. Зганяе з сябе халоднае каўтунне хмар. Смялей зазірае ў вочы людзям, абнадзейвае іх: грэшнікі, радуйцеся, Бог дае вам новую вясну.

У прыроду прыходзіць жаданая пара года.

Я вельмі люблю Вясну, як і сваю Маму. Мне заўсёды мроіцца, што Мама — сама Вясна. Яна не помніла свайго дня нараджэння. Казала: “Нарадзілася паміж Благавешчаннем і Сёмухай”. А гэта якраз пара абуджэння ў прыродзе.

Некалі святы анёл абвясціў зямной Дзеве Марыі, што яна стане Божай Маці. Добрая навіна і стала днём Благавешчання. Так і мне ўяўляецца навіна ў сям'і Янушэўскіх, калі з'явілася на Божы свет Марыя — чароўная чалавечая кветачка. Яе дзень нараджэння стаў святам для ўсіх Янушэўскіх, для самой Марыі. А пазней і для мяне, яе сына.

Сёмуха — таксама вялікае свята.

У нашых Шоўкавічах здаўна прызнаны жаданым фэстам, гуляннем. Увесь народ вёскі чакае гэтага дня. Вышкрабаюць падлогу, мыюць вокны, ганяюць павукоў, падмятаюць двор. У хату нясуць кляновыя галінкі. Утыкаюць іх каля набажніцы, над дзвярамі, вокнамі, рамкамі з фоткамі.

Мама ва ўсім завадатарка.

А калі ўсе стомяцца, лягуць спачываць, яна чаруе яшчэ каля печы. Варыць. Парыць. Смажыць. Пячэ.

Раніцай — усе за наедны, сытны стол.

Прысядзе на лаўку і Мама. Прыгубіць з чаркі самагонкі. Шчыра ўсміхнецца.

— Ешце, што Бог даў.

І, здаецца, большага шчасця не ведала, калі добры апетыт у свайго Сцёпы і сваіх дзетак — Клавы, Пеці, Любы, Колі, Валодзі ды Ліды з Мішкам і Шурыкам.

Чаму ж не паверыць, што мая Мама Марыя нарадзілася паміж двума божымі святамі — Благавешчаннем і Сёмухай?..

* * *

Здаля, з мінулага, чую мамін голас:

— Была свая зямля. От і гаравалі на ёй ад цямна да цямна...

Веру, зямля была для Мамы школай і універсітэтам, вучыцелькай-мучыцелькай.

Веру, зямля навучыла Маму жыць — карову даіць, авечку стрыгчы, гуркі вырошчваць, мазалі зарабляць.

Веру і ў тое, што зямелька — гэта божае тварэнне, вышыня ўзнёслага палёту. Хто працуе на ёй — і паэтычны, і багаты душой.

Прысядзе жняя вады глынуць, а наўкол птушачкі спяваюць, калоссе шапаціць, сонейка лашчыць твар.

Уторкне касец касу, каб пот змахнуць, зірне неўкол — цешаць вока зялёныя пракосы, зялёная барвіна за сенажаццю. Палюбуецца бацяном, які ідзе следам у чырвоных ботах і, можа, не столькі заклапочаны, каб жабу падлавіць, а каб падахвоціць касца.

Божа, якое суладдзе ў прыродзе!

Пад высокім небам у вёсцы Вялікі Лес расла мая Мама. На ўрадлівым палетку узгадавалася і зацвіла кветкавай прыгажосцю.

Гляжу на фота, на якім надпіс: “20 жніўня 1917 года”. На ім увекавечаны вялікалескія дзяўчыны — Анюта, Маня і Вольга. Тры сястры. Тры зямныя ружы, божыя пасланніцы.

Пасярод іх — мая Мама. Ёй — дзевятнаццаць. Яшчэ не замужам. Светлае, доўгае плацейка, аж да боцікаў, выдае статную фігуру. Белы, вязаны каўнерык. Прычоска кароткая, з грыўкай-спакушалкай на лобе. Тварык чысты і пяшчотны. Губкі — банцікам. А вочы! Ды гэта ж дзве крынічкі, ад якіх не адарвацца...

Некалі патлумачыла гэты здымак цётка Анюта:

— Мы хадзілі гуляць на фэст у Стрэшын. Там і зняліся. Якраз Благавешчанне было. Мама твая такая танцорка, што з круга не сходзіла. От прыгожая была, як вытачаная ўся. Шчочкі пунсовыя, тварык пяшчотны. Багата хто з хлопцаў хацеў браць, а бацькі выдалі за багатага...

(Працяг будзе).

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства “Радзіма”).

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1387.
Падпісана да друку 26.07.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.